*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 27 (82)* *20 – 26 жніўня 1994 г.* *Кошт 300 рублёў*

*Каб зарэкамэндаваць сябе з лепшага боку, спадару Лукашэнку прыйдзецца весьці рыначныя рэформы.* – ст.2.

*Рэчавы рынак можа страціць актуальнасьць толькі разам з рыначнай эканомікай.* – ст. 3.

*У алеі ў сьвеце ліхтароў, паскубваючы з клюмбы кветачкі, стаяў... слон.* –ст. 8.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква – Санкт-Пецярбург.*

## ІНАЎГУРАЦЫЯ ПАПСКАГА НУНЦЫЯ АДБЫЛАСЯ Ў МАЛОЙ БАЗЫЛІЦЫ ГОРАДНІ

У Малой Базыліцы - Фарным касьцёле Горадні - адбылася Сьвятая імша, прысьвечаная інаўгурацыі Папскага Нунцыя на Беларусі Агосьціно Мартэтто. Высокую духоўную асобу ў Горадні віталі вернікі й проста ахвочыя. Хоры сьпявалі здравіцы, а прывітальная прамова ў гонар Агосьціно Мартэтто прагучала на дзяржаўнай, польскай, гішпаньскай і італьянскай мовах.



**НА ЗДЫМКУ: Нунцый Агосьціно Мартэтто падчас інаўгурацыі ў Малой Базыліцы.**

**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

## ДЭНАМІНАЦЫЯ: ЗРАЗУМЕЛАСЬЦІ НЯМА



Як вядома, Кабінэт Міністраў і Нацбанк Рэспублікі Беларусь пастанавілі правесьці па стану на 20 жніўня дэнамінацыю беларускага рубля ў 10 разоў. Каб даведацца, якім чынам яна праводзіцца, наш карэспандэнт зьвярнуўся 17 жніўня ў аддзел цэнаў Гарадзенскага аблвыканкаму. Яго начальнік А.Варабей паведаміў, што наконт гэтага ня мае ніякага ўяўленьня, бо дагэтуль да яго не паступала ніякіх дакумэнтаў. На яго думку, "дэнамінацыя абсалютна не паўплывае на эканоміку" і праводзіцца, магчыма, таму, што ў касавых апаратах не хапае нулёў.

**Д.ВОЛЬСКІ.**

## ДАДУМАЛІСЯ

Гарадзенскае таварыства з абмежаванай адказнасьцю "Соіс", у абавязкі якога ўваходзіць абслугоўваньне штучных забудоў, узялося замацаваць стромкі бераг Каложскай гары, які ўсё больш і больш разбураецца.

Спэцыялісты "Соіса" для справы вырашылі скарыстаць старыя апоны ад тралейбусаў.

Патрэбную колькасьць апонаў завезьлі на тэрыторыю водна-тэхнічнага ўчастка й зьвязалі ў сэкцыі непадалёк рачнога порту. Каб пераправіць зьвязаныя сэкцыі з левага на правы бераг, вырашылі да сэкцыяў укласьці паліэтыленавыя мяхі й напампаваць іх паветрам. Калі падлічылі выдаткі, то выявілася, што паліэтыленавыя мяхі - дужа каштоўная справа. У пошуках танных сродкаў пераправы "спэцы" з "Соіса" наўзамен мяхоў вырашылі скарыстаць выбракаваныя, пратэрмінаваныя прэзэрватывы. Ужо вядуцца перамовы з кіраўніцтвам аптэчнага складу Горадні.

А што? І танна, і вынаходліва.

**З.СЛАЎКОВІЧ.**

## СЁНЬНЯ ЎЖО ДАРАЖЭЙ

Гарадзенскі аблвыканкам прыняў рашэньне з 20 жніўня павялічыць тарыфаплаты за праезд у гарадзкім транспарце да 400 рублёў. Але ж і пасьля гэтага ён застанецца плянава стратным, бо толькі сабекошт адной паездкі зараз складае 700-800 рублёў.

**А.Д.**

## ЦЕНЯВЫ КАБІНЭТ АКЦЭНТУЕ ЎВАГУ НА ЭКАНАМІЧНЫХ ПРАБЛЕМАХ

Адбылося чарговае паседжаньне Кабінэта міністраў, сфармiраванага БНФ. Яно было прысьвечана дапрацоўцы эканамічнай праграмы Фронту. На думку членаў Кабінэта, асноўную ўвагу трэба надаваць праблемам прыватызацыі й структурнай перабудовы прамысловасьці. Доля дзяржуласнасьці ў эканоміцы, згодна разьлікам эканамічных экспэртаў БНФ, не павінна перавышаць 50%. Акрамя таго, яны мяркуюць неабходным пераарыентаваць эканоміку на патрэбы беларускіх спажыўцоў, бо пэрспэктывы збыту тавараў на расейскім рынку пры любым разьвіцьці сытуацыі выглядаюць не бліскучымі. БНФ ужо зараз прымае меры, неабходныя для падрыхтоўкі гэтых пераўтварэньняў. На паседжаньні быў так сама заслуханы даклад Р.Гарэцкага аб радыяктыўным забруджаньні тэрыторы Беларусі. Дадзеныя акадэміка абапіраюцца на вынікі гэалагічных дасьледаваньняў і вельмі адрозьніваюцца ад афіцыйных.

## АПАЗЫЦЫЯ НЕЗАДАВОЛЕНА

Як заявіў каардынатар парлямэнцкай апазыцыі БНФ С.Навумчык, "выклікаюць зьдзіўленьне апетыты прэзідэнцкай каманды. Мы лічым неканстытуцыйным Указ N19 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у адпаведнасьці з якім у ведзяньне яго адміністрацыі перадаецца шэраг будынкаў, у тым ліку Вярхоўнага Савету, Вярхоўнага Суда, Вышэйшага Гаспадарчага Суда, а таксама Бярэзінскі й Прыпяцкі запаведнікі й Белавежская пушча. Вячаслаў Кебіч пра гэта й марыць ня мог." Пакуль невядома, ці будуць сябры апазыцыі прадпрымаць якіясьці меры ў сувязі з гэтым, акрамя публічнага асуджэньня.

## ГАРАЧАЯ ВАДА СТАНЕ «НАРМАЛЬНАЙ»

У апошні час на пад'ездах дамоў некаторых мікараёнаў Менску зьявіліся аб'явы аб тым, што ў сувязі з дэфіцытам энэргарэсурсаў тэмпэратура падаваемай у кватэры гарачай вады будзе зьніжана да 40 градусаў.

На прэс-канфэрэнцыі Кабінэту міністраў 15 жніўня віцэ-прэм'еру М.Мясьніковічу было зададзена пытаньне, ці зьяўляецца зьніжэньне тэмпэратуры гарачай вады ўрадавай палітыкай ці гэта ініцыятыва мясцовых уладаў. Ён сказаў, што лічыць тэмпэратуру вады ў 40 градусаў "нармальнай", а таксама заявіў, што аптымальныя рэжымы распрацоўваюцца, зыходзячы з магчымасьцяў эканомікі. "А то мы говорим, что у нас денег нет, а хотим за обе щёки", - сказаў віцэ-прэм'ер.

**СІМ**

## НЕМЦЫ ДАПАМАГАЮЦЬ

Днямі на адрас шпіталя ў Ашмянах прыйшла гуманітарная дапамога з нямецкага гораду Людэнштагда. Цэлы фургон з мэдыцынскім абсталяваньнем, перавязачнымі матэрыяламі, інваліднымі каляскамі ахвяраваў дабрачынны Ордэн іянітараў.

**Ул.інф.**

# ЗЬМЯНЕНЬНЕ ГОСПАДАВА

**"На гары адмяніўся Ты, Хрысьце Божа, і вучні Тваe пабачылі, колькі маглі, славу Тваю, каб разумелі, як пабачаць Цябе ўкрыжаванага, што Ты пакутуеш са Сваe Волі й каб апавесьцілі сьвету, што Ты сапраўды Айцоўскае зьзяньне."**

**Кандак, сьпеў 7.**




19 жніўня ўвесь праваслаўны народ сьвяткуе цуд, зьдзейсьнёны Выратавальнікам сваім вучням - Зьмяненьне Госпадава альбо па-народнаму - Яблыкавы Спас. У памяць гэтай вялікай падзеі ўсе вялікія саборныя й маленькія прыхадзкія званы беларускіх храмаў загучаць і разальюць над прыгожым краем малінавую песьню, што зазывае нас да адраджэньня, ачышчэньня й зьмяненьня.

У гэтым эвангельскім аповядзе закладзены не толькі сказаньні пра цуда Госпадняе, але й гучыць яно, як напамін жывым пра тое, якімі будуць людзі ў Царстве Нябесным.

Вось чаму праваслаўныя хрысьціяне ў гэты сьвяты дзень ідуць да храмаў Божых, каб адчуць асалоду сьпеваў сьвятых званоў і асьвяціць пасланыя Богам дары зямныя: яблыкі, грушы, сьлівы і іншыя гатункі садавіны.

Няхай гэты белы сьвет цудоўных садоў, як сьвятая чысьціня нашай прыгажуні Беларусі, ніколі не зьвяне. Убачым жа ў дзень Спаса сьвет Фаворскі й натхнім душы верай Госпадняй...

**Пратадзіякан Яўген АНДРОНАЎ.**

# ГАРАДЗЕНЕЦ ДУБРОЎШЧЫК ПАДАРЫЎ СЭНСАЦЫЮ

Прыемнай нечаканасьцю апошняга дня чэмпіянату Эўропы па лёгкай атлетыцы стаў залаты мэдаль гарадзенскага дыскабола Ўладзіміра Дуброўшчыка. Падчас адной са спробаў ён паслаў снарад аж на 64 мэтры 78 сантымэтраў. Ні рэкардсмэн сьвету Шульц з Нямеччыны, ні фаварыт спаборніцтаў Шаўчэнка з Расеі так і не змаглі апярэдзіць нікому невядомага дэбютанта. І Ўладзімір, раздаючы паветраныя пацалункі гледачам Алімпійскага стадыёну Хэльсінкі, нават падскокваў ад звалішагася на галаву шчасьця.

Так, гэта быў першы залаты мэдаль зборні Беларусі на чэмпіянаце Эўропы. Агульнакамандную перамогу атрымалі расейскія легкаатлеты - 24 узнагароды, з якіх 10 - вышэйшай пробы. Ці маглі беларусы выступіць больш удала? Канешне! Але й тут усё залежала... ад гарадзенцаў. Каб кідальнік молату Ігар Астапковіч у чарговы раз (а дагэтуль на чэмпіянатах сьвету ў Токіа й Штутгарце, на Алімпіядзе ў Барсэлёне) не застаўся толькі на другім месцы, а падняўся на прыступку вышэй, то яшчэ адно "золата" было б гарантавана. Але Ігар з вынікам 80 м 40 см прайграў малавядомаму расейцу Васілю Сідарэнка, прычым толькі 70 см. Не пашанцавала і ўраджэнцу вёскі Празьнікі Сьвіслацкага раёну, а цяпер менчуку, Яўгену Місюле. Ён таксама фінішаваў у спартыўнай хадзьбе на 20 км толькі другім, уступіўшы маскавічу Міхаілу Шчэпнікаву. І зусім надзвычайнае здарэньне адбылося ў спаборніцтвах дзесяцібарцаў. Безумоўны фаварыт гарадзенец Эдуард Хамялайнен, ішоў наперадзе пасьля чатырох відаў, але на дыстанцыі 110 м з бар'ерамі нечакана спатыкнуўся і ўпаў. На гэтым для яго чэмпіянат завяршыўся.

Срэбраныя мэдалі атрымалі менчукі Натальля Духнова (800 м) і Эліна Зьверава (дыск).

## ПІВА ЦЯЧЭ З «КРЫНІЦЫ»

У дзень адкрыцьця ў Новаполацку Палаца спорту на новым штучным ільду стартаваў адкрыты Кубак Беларусі па хакэю, які, аднак, мае яшчэ адну назву - "Прыз "Крыніцы". Справа ў тым, што менскае акцыянэрнае таварыства "Крыніцы", якое вырабляе піва, зьяўляецца галоўным спонсарам хакэйнай Фэдэрацыі. Як адзначылі сьведкі, на працягу трох дзён піва ў новым палацы лілося ракой. Але, безумоўна, нас зацікавіў ня гэты факт. У стартавай гульні гарадзенскі "Нёман" засмуціў гаспадароў - мясцовы "Палімір", выйграўшы ўсяго з лікам 4:1. У наступнай гульні "Нёман" уступіў "Камінафце" з лікам 3:6. Заключны матч першага тура "Прыза "Крыніцы" зноў прынёс перамогу гарадзенскім хакэістам, якія ўзялі верх над менскім "Юнацтвам" (13:3).

Другі тур адбудзецца ў верасьні ў Лядовым палацы Горадні. Тады й вызначыцца пераможца, які, акрамя піва, атрымае ад спонсара 3 тысячы даляраў.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**





## ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# КУДЫ ВОЗЬМЕ КІРУНАК ЛОДКА ПРЭЗІДЭНТА

"Ошеломляющей поддержкой" назваў Аляксандр Лукашэнка вынікі разгляду ў Вярхоўным Савеце прапанаваных ім кандыдатаў - прэм'ер-міністра, яго намесьніка й кіраўнікоў сілавых міністэрстваў. Сапраўды, гэтыя кандыдатуры набіралі шмат галасоў і быццам бы праходзілі без усялякіх зачэпак. Але думаецца, што гэта толькі верхняя частка айзбэргу, апазыцыя Прэзідэнту існуе, й вялікая.

Аляксандр Сасноў, напрыклад, лічыць, што яго калегі-дэпутаты галасавалі так актыўна таму, што ў іх спрацаваў інстынкт самазахаваньня. Некаторыя дэпутаты не хавалі гэтага і ў кулуарах тлумачылі, што менавіта так галасавалі, бо ня хочуць губляць цёплыя месцы, тым больш, што Лукашэнка не аднойчы паўтараў, што разгоніць гэты парлямэнт. Але, думаецца, такіх дэпутатаў было ня шмат, бо многія з іх знайшлі сабе новыя цёплыя месцы, а некаторыя даўно сталі прынцыповымі й паддакваць свайму быламу калезе не жадалі. Напэўна, на выніку галасаваньня паўплывала іншае. Адзін з гарадзенскіх дэпутатаў так растлумачыў, чаму ён галасаваў станоўча: "Калі мы не зацьвердзім новыя прызначэньні, - гаварыў ён, - то Лукашэнка будзе крычаць, што Вярхоўны Савет не падтрымлівае яго і ўсе свае промахі сьпіша на нас. Таму мы галасуем, зацьвердзім усе кандыдатуры і - кіруй, Саша. А ўжо праз паўгады паглядзім, што ў яго атрымаецца. Вельмі хутка народ закрычыць: "Далоў Лукашэнку!", бо праблем не становіцца меней. Наадварот, іх колькасьць расьце. Ураджай сёлета зьбяруць небагаты, зімой наўрад ці будзе цяпло, запасаў у дзяржавы шмат... Хочаш-ня хочаш, а на непапулярныя меры ісьці прыйдзецца. Толькі Аляксандр і яго людзі наўрад ці здолеюць іх правесьці. Навошта тады ўскладаць віну на дэпутатаў, сам ведаў, куды выбіраецца."

•Аб падтрымцы Лукашэнкі ў Вярхоўным Савеце яскрава сьведчаць вынікі галасаваньня па выбарах Дзьмітрыя Булахава, якога прэзідэнт прапанаваў на пасаду Канстытуцыйнага суда. Булахаў здолеў набраць усяго 132 галасы. Дэпутаты справядліва палічылі, што гэтая пасада не прэзідэнцкая й выбіраюць не на пяць гадоў, а на адзінаццаць. Адзін з дэпутатаў, камэнтуючы вынікі галасаваньня, заўважыў: "У гэтай залі сядзіць мінімум 6 чалавек, кожны з якіх хоча стаць другім прэзідэнтам." Сапраўды, навошта ім лукашэнкаўскі Булахаў?

Сёньня А.Лукашэнка ня мае моцнай каманды. Сваіх людзей у яго вельмі мала. Ён не абапіраўся на нейкую партыю ці іншую палітычную сілу. Вакол яго сабраліся тыя, хто захацеў прыйсьці да ўлады ці прадоўжыць сваю палітычную кар'еру. Народны дэпутат Беларусі Шачак са Слуцка распавёў, што яго калега па парлямэнту прапанаваў яму стварыць у Слуцку групу ў падтрымку А.Лукашэнкі. Шачак выказаў сумнеў у тым, што Лукашэнка - той чалавек, які можа быць Прэзідэнтам. "Затое для нас варыянт бязпройгрышны", - пачуў у адказ. Вось і падтрымалі Аляксандра Рыгоравіча тыя, для каго гэты варыянт быў адзіным бязпройгрышным. Дзьмітрый Булахаў і Віктар Ганчар першымі прыйшлі да Лукашэнкі. Пасьля адстаўкі Вярхоўнага Савету Булахаў ня здолеў бы застацца ў вялікай палітыцы з-за сваёй дрэннай маральнай рэпутацыі. Ганчар жа вельмі хацеў мець вялікую пасаду. Ён жадаў быць то намесьнікам Шушкевіча, то міністрам юстыцыі, то дырэктарам інстытута права. Быць другім у Партыі Народнай згоды ў Маладэчна ён лічыў малым для сябе.

Да Лукашэнкі далучыліся Сініцын, Ціцянкоў, Лукашоў, Шэйман. Яны працавалі ў пастаянных камісіях Вярхоўнага Савету. Так, добрая, ціхая праца. Але хутка новыя выбары. І што потым? Кебічаўцы іх не вабілі, іншыя партыі - таксама... Таму яны вырашылі падтрымаць Лукашэнку. Цяпер Сініцын - начальнік прэзідэнцкай адміністрацыі, Ціцянкоў - яго намесьнік, Шэйман - сакратар Савета бясьпекі, а Лукашоў - міністр транспарту. Яны былі нядрэннымі дэпутатамі хаця б таму, што адкрыта не падпявалі Кебічу. Але ці стануць яны сапраўднымі прафэсіяналамі на новых месцах?




Вырашылі падтрымаць Лукашэнку й дэпутаты, якія жывуць у раёнах, і будучае іх таксама ў тумане. Зразумець іх можна. Але самы дзіўны фарс выкінулі маладыя дэпутаты, якія доўга выбіралі, каго падтрымаць, заяўлялі аб сваім патрыятызме й любові да Беларусі й яе народа, а потым пайшлі да Лукашэнкі, для якога незалежнасьць Беларусі - другасная справа. Што ж, добра папрацавалі тыя ж Кучынскі й Лябедзька, цяпер іх адудзячаць.

Як правіла, прадстаўнікі з каманды Лукашэнкі застаюцца ў апараце Прэзідэнта, і толькі адзін Лукашоў стаў міністрам ды Ганчар - віцэ-прэм'ерам. І то, гэтыя пасады не па іх сіле. У прыватнасьці, многія зьдзіўляюцца, чаму Лукашэнка не пакінуў на пасадзе міністра транспарту Шкапіча? Гэта вельмі адукаваны й высокапрафэсійны спэцыяліст, які раней пасьпяхова кіраваў беларускай чыгункай. Старшынёй тэлерадыёкампаніі прызначаны Рыгор Кісель, а яго намесьнікам - Уладзімір Ядранцаў. Р.Кісель вядомы тым, што заснаваў і рэдагаваў у Магілёве цікавую газэту "Могилёвские ведомости", а Ядранцаў - тым, што на радыё прапагандаваў працу камісіі Лукашэнкі. Думаецца, што Прэзідэнт проста адудзячыў іх за адданасьць, бо ні адзін, ні другі па сваіх прафэсійных здольнасьцях ня могуць кіраваць тэлерадыёкампаніяй. Кісель, напрыклад, ні дня не працаваў на тэлебачаньні ці радыё. Ядранцаў мае не асабліва высокую рэпутацыю ў сваіх калег.

Так, кампэтэнтнасьць членаў прэзідэнцкай каманды ня самая высокая. Ды яно й не магло інакш быць. Талковыя людзі ў час перадвыбарчай кампаніі пайшлі да Пазьняка, Шушкевіча, Карпенкі, нават да таго ж Кебіча, якія мелі неабходны палітычны вопыт. Аб прафэсіяналізме акружэньня Прэзідэнта гаворыць і падрыхтоўка ўказу аб паўнамоцтвах адміністрацыі Прэзідэнта, пасьля чаго Прэзідыум Вярхоўнага Савету пагражаў падаць у Канстытуцыйны суд, бо ва ўказе прыніжаюцца функцыі парлямэнту й судоў.

Ад расстаноўкі кадраў будуць залежыць далейшыя дзеяньні Лукашэнкі. Шмат чаго нагаварыўшы перад выбарамі, сёньня ён спрабуе забыць абяцанкі. І ўжо Леанід Сініцын заяўляе, што Аляксандр Рыгоравіч нічога не абяцаў выбаршчыкам. Так, Прэзідэнт многае са сваёй перадвыбарчай праграмы хутка забудзе. Самі абставіны прымусяць яго дзейнічаць інакш. Наўрад ці Прэзідэнт наважыцца далучыцца да Расеі ці нават хутка аб'яднаць фінансавыя сістэмы краін. Беларусь Расеі зараз патрэбна ня так, як пры Кебічу, сябрам якога быў Чарнамырдзін. Расейскі прэм'ер напрамкі заявіў беларускаму Прэзідэнту: "Аб якой інтэграцыі можа ісьці размова, калі вы адсталі ад нас гадоў на пяць?" Ды і Б.Ельцын, які не любіў Кебіча, не асабліва ахвотна зьбіраецца супрацоўнічаць з абраньнікам беларускага народу. Каб зарэкамэндаваць сябе з лепшага боку, спадару Лукашэнку прыйдзецца весьці рыначныя рэформы. Ужо кіраўнікі ўраду заяўляюць аб свабодных цэнах, аб умацаваньні нацыянальнай валюты, аб тым, што аб'яднаньне з Расеяй - працэс працяглы, аб'яднацца можна эканамічна, і то абмежавана. Да рэформаў Прэзідэнта штурхаюць і многія замежныя арганізацыі. У прыватнасьці, кіраўнік Міжнароднага валютнага фонду катэгарычна запатрабаваў праводзіць такія рэформы. Калі гэтага не адбудзецца, то Беларусі няма адкуль чакаць дапамогі, крэдытаў. А крэдыты нам будуць вельмі патрэбныя, улічваючы недабор ураджаю.

Толькі ці здолее каманда Лукашэнкі правесьці гэтыя рэформы? Калі яны й адбудуцца, то ў значна меншым аб'ёме. Ужо сёньня гавораць аб тым, што некаторых з членаў ураду хутка заменяць. Найперш называецца прозьвішча Мясьніковіча. Ён трапіў у няміласьць яшчэ й таму, што за два дні да прыняцьця прысягі прэзідэнта падпісаў пастанову Саўміна аб ільготным атрыманьні крэдытаў для пабудовы ці пакупкі жыльля працаўнікамі дзяржапарату. Кажуць, што Лукашэнка быў у вялікай злосьці, калі даведаўся аб існаваньні гэтага дакумэнта. Зразумела, што, адмяніўшы яго, Прэзідэнт уздымаў супраць сябе дзяржапарат. Думаецца, Лукашэнка ведаў, чым закончылася супрацьстаяньне Малянкова й Хрушчова. Першы, у якога пасьля сьмерці Сталіна аказалася ўлада, павёў барацьбу са злоўжываньнямі работнікаў дзяржапарату, на што Хрушчоў адказаў, што ўсё гэта правільна, але як жыць без апарату, які зьяўляецца апорай? Чыноўнікі перайшлі на бок Мікіты Сяргеевіча, й той атрымаў перавагу. Вось і Лукашэнку прыйшлося задумацца, ён не адмяніў, а толькі прыпыніў дзеяньне пастановы. А Мясьніковічу ў знак пакараньня загадаў даць паведамленьне аб гэтым па тэлебачаньню. Акрамя таго, ходзяць пакуль чуткі аб тым, што на Мясьніковіча маецца кампрамат. Ва ўсялякім разе, на перадвыбарчай сустрэчы Лукашэнкі ў КДБ супрацоўнікі гэтай установы негатыўна выказваліся аб віцэ-прэм'еры. Як ні круці, каманда Лукашэнкі ненадзейная, і яе прыйдзецца трымаць пад жорсткім кантролем. Таксама прыйдзецца зьвяртацца за дапамогай да розных палітычных сілаў, у тым ліку й дэмакратычных. Ужо чуюцца выказваньні, што Лукашэнка хоча запрасіць ва ўладныя структуры прадстаўнікоў БНФ. Згадваецца прозьвішча Аляксандра Саснова, які цяпер актыўна падтрымлівае Зянона Пазьняка. Ва ўрадзе й адміністрацыі працуюць прадстаўнікі Партыі Народнай згоды. Акрамя Віктара Ганчара, да Лукашэнкі пайшоў і Васіль Даўгалёў, які ўзначаліў кантрольнае падразьдзяленьне пры прэзідэнце.

Думаецца, самую правільную пазыцыю заняў Беларускі Народны Фронт, які прапаноўвае Прэзідэнту канструктыўнае супрацоўніцтва й які заявіў, што ўстрымліваецца ад крытыкі яго ў першыя сто дзён кіраваньня. Прыблізна такую пазыцыю займае й БСДГ, але сацыял-дэмакраты ўжо сёньня пачынаюць крытыкаваць Прэзідэнта. У Партыі народнай згоды крыху расплывчатая пазыцыя. Частка яе членаў хоча выступіць на баку Прэзідэнта, што зразумела, бо Лукашэнка пачынаў зарганізоўваць гэтую партыю. Але большасьць яе членаў заяўляе, што трэба падтрымліваць толькі па асобных напрамках.А гэта - умацаваньне дзяржаўнасьці Беларусі, правядзеньне рыначных рэформаў, беларусізацыі, сацыяльнай абароне насельніцтва... Левыя партыі ўжо ў першыя дні адмоўна аднесьліся да новага Прэзідэнта. Выключэньне складае "Славянскі Сабор", які цяпер "кусае локці", што адмовіўся падтрымліваць Лукашэнку перад выбарамі. Аб'ядноўваюцца й апазыцыянэры. Нядаўна, напрыклад, была створана Сацыялістычная партыя, якую ўзначаліў намесьнік Старшыні Вярхоўнага Савету Вячаслаў Кузьняцоў. Па нашых зьвестках, устаноўчы зьезд павінен быў прайсьці 25 ліпеня, і старшынёй павінен быў стаць Вячаслаў Кебіч. Але вынікі першага тура галасаваньня ўнесьлі вялікія карэктывы. У акружэньні Прэзідэнта лічаць гэтую партыю найбольш апазыцыйнай.

Але пакуль усе ў чаканьні. Думаецца, што пасьля падвышэньня цэнаў на малако й хлеб многае стане яўным. Хваляваньні людзей, якія абралі ў дошку свайго Прэзідэнта, а ён іх падманвае, непазьбежныя. Ды й сёньня ў Менску ўжо ходзяць улёткі, у якіх заклікаецца дабівацца адстаўкі Лукашэнкі, бо ён падвышае цэны й доўга падбірае міністраў. І на хваляваньнях пачнуць спэкуляваць розныя палітычныя сілы. Куды тады павернецца лодка папуліста Лукашэнкі?

**Уладзімір СЕМЯНЦОЎ.**

# ЯК 25 ТЫСЯЧ ПЕРАВАЖЫЛІ 60 МІЛЬЁНАЎ

У Кастрычніцкім раённым судзе Горадні адбыўся трэці па ліку суд па іску спадарыні Калач - новай гаспадыні дому па праспэкце Савецкіх Касманаўтаў да сям'і пратадзіякана Яўгена Андронава. Іск быў пададзены ў суд з мэтай высяленьня вышэйзгаданай сям'і з дому, які некалі быў грамадзкай уласнасьцю Пакроўскага сабору.

На жаль,ісьцец у суд не зьявіўся, яго інтарэсы прадстаўляла адвакат спадарыня Токарава, якая адразу ж згадала, што Вера Васільеўна Сакаўчук, адна з ініцыятараў суда, звольненая з пасады бухгалтара Сабору й нібыта ад'яжджае ў Баку. Паведамленьне істотна насьмяшыла прысутных і сам суд. Але й так было бачна, што без "жарту-паведамленьня" суддзям вельмі ніякавата разьбіраць гэтую справу. Нагадаю, што два папярэднія суды скончыліся не на карысьць істца. Да таго ж, выконваючы волю мітрапаліта Філярэта, спадарыня Калач, якая набыла ў Пакроўскага сабора гэты дом разам з жыхарамі за 60 з лішкам мільёнаў, адмовілася ад сваёй пакупкі. Апытаўшы сьведкаў, суд вынес вэрдыкт: заставіць прадмет спрэчкі - дом па праспэкту Касманаўтаў - за Пакроўскім саборам, а сям'ю пратадзіякана Андронава не высяляць з дому, таму што ў свой час гэтае жытло за 25 тысяч рублёў было набыта менавіта для гэтай сям'і.

Праўда й законнасьць узялі верх. Вось фактычна і ўсё. Але калі пісаліся гэтыя радкі, да рэдакцыі завітаў пратадзіякан Андронаў і ў скрусе паведаміў, што нібыта ізноў з ім хочуць судзіцца. Тэлефонны званок да настаяцеля Пакроўскага сабору айца Генадзя Яблонскага, як кажуць, расставіў усе кропкі над "і". Ад свайго імя Пакроўскі сабор не блаславіў нікога яшчэ раз падаць у суд. Напасьледак айцец Генадзь дадаў, што сям'я пратадзіякана можа жыць у доме Пакроўскага сабору ў міры й спакоі.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

# НАМ ПАКАЗАЛІ МЕСЦА Ў КУТКУ ЭЎРОПЫ

Віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг заўважыў, што сёньня з беларускім урадам ніхто не жадае лічыцца. "Нам ставяць жорсткія ўмовы, якія мы павінны выконваць, - падкрэсьліў ён.- І нам нікуды ня дзецца." Сумнае прызнаньне віцэ-прэм'ера, які й пры Кебічу займаў гэтую пасаду, было зроблена пасьля патрабаваньняў, якія прад'явіў Беларусі Міжнародны валютны фонд. Фактычна гэта былі ультыматыўныя патрабаваньні. Валютнаму фонду надакучылі абяцанкі былога ўраду, які любіў браць крэдыты на правядзеньне рэформаў, а рэформы не праводзіў. На Захадзе ж грошы лічаць. Таму й засумняваліся: ці зможа Беларусь іх вярнуць.

Праўда, як заўважыў Лінг, на першы час МВФ яшчэ паслухаў новы ўрад і крыху зьмякчыў патрабаваньні. Дэфіцыт бюджэту дазволена павялічыць з двух працэнтаў да шасьці. Таксама дадзена згода й на павелічэньне памераў інфляцыі. Гэта было зроблена, бо прадстаўнікі фонду пераканаліся, што правядзеньне жорсткіх мераў можа выклікаць абурэньне ў народа.

"Калі мы не прымем умоў МВФ, - адзначыў яшчэ адзін віцэ-прэм'ер М.Мясьніковіч, - то з намі ніхто не захоча мець справу." Акрамя таго, па словах Мясьніковіча, ад нас патрабуюць прадаставіць заключэньне МВФ ці экспэртызу якой-небудзь іншай уплывовай міжнароднай арганізацыі, а бяз іх нічога не даюць.

Крэдыты нам цяпер патрэбны як паветра. Прэм'ер-міністр М.Чыгір з сумам канстатаваў, што як пайшоў да Дома ўраду, то жахнуўся - ніякага бюджэту Кебіч не пакінуў, казна пустая. Ёсьць толькі артыкулы, якія канстатуюць даходы, а даходаў на самой справе няма.

"Такім чынам, - зазначыў трэці віцэ-прэм'ер В.Ганчар, - нам неабходна праводзіць рынкавыя рэформы. І гэта ва ўрадзе разумеюць усе. Нават Лінг і Гаркун, якіх несправядліва называюць праціўнікамі рынку."

Што ж, Беларусі паказалі яе месца, і нам застаецца толькі прыняць сусьветныя правілы гульні.

**У.АБРАМЧУК.**

## ПАДАРОЖЖЫ

# БЕЛАРУСКІ ГОЛАС НА ВАРШАЎСКАЙ ХВАЛІ

З самага пачатку я адчуваў, што павінна быць даволі цікава. Нейкі дзіўны худы мужчына бегаў з аднаго кутка пакою ў другі, з усімі адразу размаўляў, нешта тлумачыў і, урэшце, патрабаваў, каб усе яго слухалі, бо ён павінен паведаміць самае важнае. Гэтым самым важным была інструкцыя: як трэба ў Польшчы паводзіць сябе ў прыбіральні. Асаблівая ўвага завастралася на тым, каб не ступаць на ўнітаз нагамі, а сядаць тылкам. Прыводзіўся нават прыклад, калі адна расейка падчас руху цягніка, седзячы на ўнітазе нагамі, выпала з прыбіральні, затым з вагона, зламала нагу й трапіла ў шпіталь.

Будучы гід і кіроўнік настолькі завастрылу на гэтым увагу, што пераказваў адно й тое ж ужо ў чацьвёрты раз, аж пакуль сам разам з другімі не рассьмяяўся. А ўрэшце заўважыў: "У вас у Расеі, то невядома як..."

Праўда, што датычыць унітаза, з гэтым ня раз яшчэ давядзецца сутыкнуцца, паколькі наш польскі апякун на гэты тэмат можа гаварыць па некалькі гадзін запар. А заўтра ў цягніку ён стане амаль што за кожным хадзіць у прыбіральню й зноў тлумачыць, як там сябе паводзіць. А на разьвітаньне яшчэ раз усім паўторыць, што ў Польшчы кожнаму выдадуць па кавалку мыла й па адной рульцы паперы для прыбіральні...

Адным з асноўных патрабаваньняў да ўсіх ад'язджаючых на двухтыднёвы адпачынак ў Польшчу ставілася абавязкова насіць аднолькавыя кашулькі, якія кіроўнік асабіста ўручыў кожнаму. На іх чырвоным па беламу надпіс - Polska. А зьнізу гэрб Рэчы Паспалітай і Пагоня, як зазначыў гід - гэрб Летувы, якая, з яго слоў, таксама ўваходзіла ў склад Польшчы.

Як высьветліцца пазьней, паездку гэту для моладзі нашай вобласьці і, у першую чаргу, для тых, хто з посьпехам вывучае польскую мову, зарганізавала Варшаўская фундацыя Польскай культуры на "Усходніх Крэсах". А яшчэ потым відавочным стане й тое, што чужую дзяржаву можна безапэляцыйна называць нейкімі Крэсамі і не прымаць у свой бок на гэты конт ніякіх аргумэнтаў. Але каб не дыскутаваць дарэмна, заўважу ўсё ж адпачатку, што ня гэта было самым цікавым у нашым падарожжы. Дадам толькі, што галоўнай мэтай сваёй дзейнасьці фундацыя лічыць "дапамагаць палякам, ахвярам Савецкай улады, якія жывуць на другім баку Нёмана і Буга - на польскіх землях, якія ў выніку нападу СССР на Польшчу 17 верасьня 1939 года засталіся страчанымі для палякаў". Такой пазыцыі прытрымліваецца фундацыя. Праўда, аб гэтым я даведаюся пазьней, а ўся наша група з 23 чалавек, магчыма, й здагадвалася, хоць наўрад ці беларускім



дзецям ад 12 да 16 гадоў гэта было дастаткова зразумелым.

❒ Мы пасяліліся ў школе ў самым цэнтры Варшавы побач з гатэлем "Holiday" і палацам Культуры й навукі, які пасьля Другой Сусьветнай вайны савецкі народ пабудуе ў дар польскаму народу й які з часам тут, у цэнтры горада, стане для палякаў сімвалам сталінскага камунізму і, напэўна, яшчэ доўгія гады будзе нагадваць гэтай краіне аб яе мінулым.

Брудныя, запыленыя пасьля школьнага года клясы, спартыўныя матрацы на падлозе адпачатку ў нечым перакрэсьліць некаторыя нашы рамантычныя мары. Асабліва калі нехта па сваёй лёгкадумнасьці не ўзяў з хаты белую прасьціну й коўдру. Праўда, гэта таксама праз некалькі дзён перастане быць праблемай, як і тое, што ў школцы адсутнічае нават душ. Нашыя дзеткі й дарослыя звыкнуцца з тым, што пасьля сьпякотнага дня можна папросту памыцца пад кранам і хуценька заснуць, прысьніўшы варшаўскія ўражаньні, хоць нехта неадноўчы будзе мне казаць, што бачыў у сьне Горадню.

❒ Па Варшаве як дзеткі, так і дарослыя, павінны будуць хадзіць абавязкова строем, у аднолькавых кашульках і амаль ці ня ўвесь час трымаць адзін аднаго за рукі. З гэтым будзе вельмі цяжка звыкнуцца, асабліва старэйшым. Увесь час яны будуць атрымліваць заўвагі ад пана кіроўніка, які за ўсякую правінасьць будзе мець звычку ўсіх называць альбо камуністамі, альбо бальшавікамі. Напачатку навет дзецям гэта здасца непрыемным, а потым і ў дарослых, акрамя ўсьмешкі, больш нічога ня будзе выклікаць. Праўда, адбудуцца непрыемныя размовы наконт тых самых камуністаў і бальшавікоў і наконт таго, што мы не з нейкай там Расеі, а з Беларусі. На што пазьней наш пан кіроўнік будзе заўсёды казаць: "От там, у вашай Беларусі."

Пан Януш - сапраўдны патрыёт сваёй Польшчы. І, напэўна, пагэтаму будзе заўсёды расказваць і паказваць самыя розныя цікавосткі ў Варшаве і з гонарам тлумачыць, што ў Беларусі такога няма й невядома, калі станецца. Асабліва цікава ён будзе распавядаць аб традыцыях польскай кухні, дабротных якасных харчах, перапоўненых паліцах у крамах, а потым, завёўшы дзетак у шаснаццаць гадзін на полудзень (а сьнедалі мы а дзевятай: звычайна лусту хлеба з маслам і кубак непрыстойнай гарбаты) будзе заказваць самы танны абед з салодкім супам, які нашы дзеткі, адзін раз паспрабаваўшы, адразу панясуць назад на кухню. А пан Януш, заказаўшы сабе нешта іншае, так і ня ўцяміць, чаму гэта мы не прызвычаеныя да эўрапэйскай кухні.

На шчасьце, нашыя выхавацелькі амаль кожную раніцу, абудзіўшыся раней за іншых, зьбегаюць на рынак, нешта там прададуць і накупяць дзецям чаго-небудзь паесьці. Яны амаль кожны дзень будуць моўчкі й задаволена цёгаць за сабой поўныя кайстры бутэрбродаў, бананаў і што-небудзь папіць для дзяцей. Адна з іх нейк патлумачыць мне, што ў гэтай групе пераважна дзеці з ня вельмі шчасьлівых сем'яў: у кагосьці ўвогуле няма бацькоў, у некаторых толькі адна маці ці тата... І ніякія яны ня польскія, папросту была магчымасьць самой набраць дзетак на адпачынак - вось і ўзяла тых, каго сама палічыла патрэбным.

Ужо праз тры дні адзін з нас вельмі настойліва заявіць, што пакідае Варшаву й мусіць вярнуцца ў Горадню, маўляў, засумаваў па маме. Нехта будзе сьмяяцца з дарослага хлопца, але яму сапраўды будзе цяжка ўвесь час хадзіць з дзеткамі за ручкі, есьці хоць і дармовы, але надта ўжо сьціплы полудзень і апранаць кашульку з рэклямай варшаўскага піва "Krolevskie", калі гэта ня хочацца. На разьвітаньне ён скажа мне, што вельмі задаволены Варшавай, першай паездкай у Польшчу і з раніцы ад'едзе, сумна заўважыўшы: "Разьвітваючыся, мы трошачкі паміраем."

❒ У Варшаве кожны дзень будзе стаяць сьпёка, на тэрмомэтры вышэй за трыццаць. Практычна кожны дзень да полудня дзеткі бавяцца у адкрытым басэйне. Там шмат



людзей. Пасьля полудня звычайна арганізаваная экскурсія па гораду: Старое места, музэі, атракцыёны, Лазенкі... Я практычна нікуды з імі не траплю, у мяне будуць свае пляны й свае ўражаньні, якімі мы пасьля вячэры будзем дзяліцца з дзецьмі. З кожным днём яны будуць распавядаць усё больш і больш цікавыя рэчы, зусім не ўзгадваючы пра абеды.

❒ У Польшчы, як вядома, больш за трыста тысяч беларусаў і шмат хто з іх жыве ў Варшаве. Табе прыемна сустрэцца з старымі знаёмымі, калегамі, сябрамі. Ты сядзіш у рэдакцыі беларукай праграмы польскага радыё й апавядаеш аб падзеях у Беларусі. Твае калегі гартаюць апошнія нумары "Пагоні" й "Свабоды" і зацікаўлена распытваюць аб выніках першага тура выбараў. Яны таксама вельмі хваляваліся за Пазьняка. Мы паволі п'ем каву, і ўвесь час наша гаворка чамусьці толькі аб Беларусі. Мне падаецца, што тут, у Польшчы, беларусы больш хвалююцца аб лёсе маёй Бацькаўшчыны, чым у Горадні альбо Менску. Польскія газэты таксама з жалем камэнтуюць вынікі нашых выбараў і з іроніяй зазначаюць, калі адбудзецца другі тур, першым прэзідэнтам у Беларусі стане дырэктар саўгаса.

Дом радыё ў Варшаве, дзе месьціцца й беларуская рэдакцыя, знаходзіцца ў былым будынку польскага КДБ. Зьнешне ён нагадвае крэпасьць з вялікай брамай і ўнутраным турэмным дворыкам. У памяшканьні, на лесьвіцах паміж паверхамі нацягнута мэталёвая сетка, а ў падвалах вузкія калідоры з камэрамі, дзе мардавалі людзей напачатку 80-ых... Зараз тут знаходзяцца студыі, адкуль вядзецца вяшчаньне практычна на ўвесь сьвет, і на беларускай мове.

М.КАРНЕВІЧ.

Працяг будзе



## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Прэзідэнт Лех Валэнса зьвярнуўся ў Канстытуцыйны трыбунал з просьбай сцьвердзіць нязгоднасьць пастановы сэйма ад другога ліпеня гэтага года "Аб ратыфікаваньні канкардота" малой канстытуцыяй і канстытуцыйным палажэньнем.

Прэзідэнт мяркуе, што пастанову сэйма можна палічыць "адмоўным рашэньнем, адтэрмінаваным у часе, а пры нагодзе - пастаўленым у залежнасьць ад будучых палітычных падзей. Такіх хаця б, як вынікі прэзідэнцкіх выбараў або канстытуцыйны рэфэрэндум".

❒ Прэзідыум краёвай камісіі "Салідарнасьць" накіраваў у Канстытуцыйны трыбунал прашэньне: праверыць згодна канстытуцыі закон, які абмяжоўвае рост заработнай платы на дзяржаўных прадпрыемствах.

❒ Міністэрства фінансаў зацьвердзіла ліміт выдаткаў для асобных ваяводзтваў на 1995г. Беластоцкаму ваяводзтву вызначаны ліміт, які заніжае запланаваныя ваяводзкай управай патрэбы на адзін більён злотых.

Зараз улады ваяводзтва хадайнічаюць перад міністэрствам фінансаў за дадатковыя 951 млрд. злотых, таму што ўжо цяпер не стае грошай на ахову здароўя, грамадзкую апеку, мадэрнізацыю дарог, заканчэньне пабудовы бальніцы ў Гайнаўцы й рамонт аднаго з беластоцкіх шпіталяў.

❒ З першага верасьня на 20% даражэюць аўтобусныя й чыгуначныя білеты па міжгародніх маршрутах. Гэта ўжо другое і апошняе запланаванае падвышэньне кошту ў гэтым годзе.

Па матэрыялах польскага друку.

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

***

У Міністэрстве замежных спраў адбыліся перагаворы аб падрыхтоўцы эўрапэйскага (асацыятыўнага) дагавору паміж Эўрапэйскім Саюзам і Летувіскай Рэспублікай. Былі абмеркаваны яго асноўныя палажэньні. Дагавор будзе рэгламэнтаваць палітычны дыялог, свабоднае перамяшчэньне паслуг, а таксама агаворваць напрамкі эканамічнага супрацоўніцтва.

***

Пастановай ураду Летувы ў Вільні на нявызначаны час зачынены харчовыя рынкі. Гэта зьвязана з працяглай сьпякотай. Асабліва ад іх зачыненьня пакутуюць жыхары прыгарада, бо вымушаны прадаваць малако дзяржаве, а плацяць за яго менш, чым можна было зарабіць на таржышчы. Пастанова ўраду, аднак, не прыпыніла паток "чаўнакоў" з Беларусі.Яны зараз прадаюць прамтавары, а таксама танныя кілбасы, сыры й іншыя прадукты на падыходах да рынку. І віленчукі ахвотна набываюць нясьвежае, "эканомячы" за конт свайго здароўя.

***

Трапіць з Віцебска ў Вільню стала цяжка. З першага жніўня хуткі цягнік "Масква-Каралевец" з віцебскім прычэпным вагонам праходзіць праз Летуву бяз права высадкі й пасадкі на тэрыторыі краіны. З 20 ліпеня адменены пасажырскі цягнік "Віцебск-Вільня".

***

Эўрапэйскі інвэстыцыйны банк пагадзіўся фінансаваць сёлета праэкт рэканструкцыі Віленскага Міжнароднага аэрапорту й выдзяліць на гэтыя мэты крэдыт у памеры 10 мільёнаў ЭКЮ (50 мільёнаў літаў). Крэдыт даецца тэрмінам на 15 гадоў пад 6-8 працэнтаў гадавых. Праз пяць гадоў Летува павінна пачаць вяртаць грошы. Скончыць рэканструкцыю Віленскага аэрапорта плянуецца ў 1996 годзе. Банк выказаў пажаданьне, каб з 22 да 6 гадзін штодня не ажыцьцяўляліся палёты.

***

Міністэрства фінансаў Летувы выпусьціла першыя кароткатэрміновыя (трохмесячныя) аблігацыі дзяржаўнай пазыкі. Яны носяць нематэрыяльную форму й маюць намінальны кошт 100 літаў. Усяго выпушчана аблігацый на суму каля 50 мільёнаў літаў. Стаўка па іх - 35 працэнтаў гадавых. Мэта выпуску аблігацый - часова пакрыць дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту.

***

Ня толькі турысты Польшчы, але й Летувы палюбілі хуткі цягнік "Варшава-Бэрлін". Больш чым 700-кілямэтровую адлегласьць ён пераадольвае за шэсьць гадзін. Яго пасажыры змогуць патэлефанаваць у любую кропку зямнога шару. Акрамя таго, у цягніку таксама можна патэлефанаваць.

МГ

Васіль РАГУЛЯ

# УСПАМІНЫ

(Працяг. Пачатак у NN 21-26.)

Адказным рэдактарам, "зіцрэдактарам", рэдактарам для адседкі прысудаў суду быў в.п.М.Шыла, які памёр на эміграцыі. Уважаю, што фактычным рэдактарам, ад якога выходзіла кожнае газэтнае грамадоўскае слова, быў А.Луцкевіч. Гэта быў чалавек з вялікай хваравітай амбіцыяй, добры крытык, глыбокі знаўца беларускай літаратуры й слабы палітык. Кожнага, хто не пагаджаўся з ягонымі поглядамі, ён уважаў за асабістага ворага і пісаў аб ім усялякія паклёпы, ня лічачыся з этыкаю сапраўднага журналіста. Яму добра было ведама старое правіла палемікі: калі хочаш перамагчы праціўніка, дык пачынай з лаянкі і пісаньня розных выдумак асабістага характару. Падобная тактыка выводзіла праціўніка з духовай раўнавагі, і ён допускаўся нятакту, якім і карыстаўся праціўнік. А.Луцкевіч выбраў мэтаю для сваёй бамбардыроўкі Рагулю і Ярэміча, якія адважыліся выйсьці з-пад ягонага кіравецтва. У адносінах да другіх паслоў і сэнатараў Беларускага нацыянальнага Клюбу ён ужываў тактыку замоўчваньня. Чаго толькі ня сыпалася на нашыя галовы? Правакатары, польская дэфэнзыва, прадажнікі, здраднікі. Не хапала назваць яшчэ забойцамі і зладзеямі. Вось арсэнал палітычных аргумэнтаў галоўнага рэдактара грамадоўскіх газэтаў. Спачатку мы кіраваліся радаю крылоўскага работніка з байкі "Работнікі і сабакі". Работнік уважаў, што сабакі пабрэшуць ды адыдуць, толькі іх ня трэба дражніць. Аднак наш сабака ад нас не адставаў. Кожны нумар газэты быў поўны лаянкі пад нашым адрасам. Ярэміч быў раззлаваўся не на жарт і быў гатовы ўжыць фізычнага ўзьдзеяньня. З цяжкасьцю мне ўдалося яго адгаварыць ад гэтага. "Сялянская Ніва" баранілася як магла, не карыстаючыся няэтычнымі спосабамі змаганьня. Урэшце не хапіла цярплівасьці і ў мяне. Сустрэўшы ў Соймавых кулюарах пасла Рак-Міхайлоўскага, я сказаў яму: "Калі вы не пакончыце з няпрыстойнымі нападкамі, дык у "Сялянскай Ніве" зьявіцца твой партрэт з польскімі афіцэрскімі шэўронамі сябра Беларускай Вайсковай Рады ў Лодзі. Я польскіх афіцэрскіх шаўронаў не насіў." Рада падтрымоўвала Пілсудзкага ў вайне з бальшавікамі і была на ўтрыманьні польскага ўраду. Ён пачаў прасіць мяне не рабіць гэтага. Ён сказаў: "Ужо колькі разоў казалі Луцкевічу пакінуць лаянку, а ён усё сваё." Другі раз было пасьля абеду ў Тарашкевіча з двума сябрамі рабочай партыі ангельскага парляманту. На гэты абед Тарашкевіч запрасіў і мяне. Пасьля абеду мы выйшлі прайсьціся. Я захапіў грамадоўскую газэту з чарговай хлусьнёю і лаянкай. Гэта я паказаў Рак-Міхайлоўскаму і Сабалеўскаму. Яны абодва абурыліся і сказалі, што яшчэ ўчора яны прасілі галоўнага рэдактара выкінуць гэтае месца. Ён не паслухаў.

Нясупыннае і несправядлівае цкаваньне вывела мяне з духовай раўнавагі. Я зарэагаваў на яго ў "Сялянскай Ніве" даволі вострым артыкулам "Раскрытыя карты". Артыкул быў перад друкам апрабаваны бальшынёю сяброў Клюбу. У артыкуле я паказаў усе зыгзагі мінулай палітыкі Луцкевіча, пачынаючы ад прэм'ерства ўва Ўрадзе БНР у Менску, да ўгадовай Беларускай Рады ў Лодзі. Ад крытыкі апошняга ягонага павароту, пераходу ў пракамуністычны лягер (Грамаду), я, дзеля зразумелых прычынаў, устрымаўся. Назваў яго беларускім Сьмярдзюковым. Знаючы Луцкевіча, я прадбачыў новы ягоны зігзаг - пераход у палянафільскі лягер. "Еў ты з усякага карыта і вернешся да польскага карыта". Гэта былі канцовыя словы майго артыкулу.

Я зразумеў тады і прызнаю цяпер, што вялікі палітык ня можа быць па асьлінаму ўпарта прасталінейны. Ягоная палітыка павінна быць гнуткая і элястычная. Ён павінен умела манэўраваць, не здаючы сваіх пазыцыяў. Манэўраваньне не павінна мець характару адмовы ад свайго ідэалу. І для яго павінны быць вартасьці, што не падлягаюць разьмене. Такою вартасьцю для нас ёсьць наша нацыянальная сьведамасьць, любоў да Бацькаўшчыны і як канчатковым выніку незалежнасьць і сувэрэннасьць усяе Беларусі як Незалежнай Рэспублікі. Гэтай простай і элемэнтарнай праўды ня мог ня ведаць А.Луцкевіч. Аднак пасьля ён эвалюцыянаваў ад Грамады да новай польскай угоды, якая, сказаў бы, нічым не адрозьнівалася ад угоды Паўлюкевіча і Валэйшы. Ён нават напалову адрокся ад свае нацыянальнасьці. Будучы арыштаваны ў справе Грамады, на допытах, на пытаньне аб ягонай нацыянальнасьці, адказаў: "bialorusin-polak". Для ідэалёга і лідара Грамады - гэта непрабачальны грэх. Пасьля, у 1939-м ці 40-м бальшавікі яго арыштавалі, вывезьлі ў Менск, дзе ён і загінуў ад савецкай кулі. А за што? Ды ён і сам ня ведаў, за што ён гіне.

Пры выбарах у Сойм Луцкевіч не выстаўляў свае кандыдатуры. Як лідар беларускага руху ён павінен быў увайсьці ў Сойм. Дмытро Левыцкый, тагачасовы галава ўкраінцаў, ні Раман Дмоўскі, галава і ідэалёг польскай перадавой дэмакратыі, ня ўхіліліся ад кіравецтва сваімі нацыянальнымі прадстаўніцтвамі, першы ў польскім Сойме, другі ў расейскай Дзяржаўнай Думе.

Некаторыя думаюць, што ён быў у душы фэдэралістам, прыхільнікам фэдэрацыі ўсяе Беларусі з Польшчай. У такім выпадку было б лепш праводзіць сваю ідэялёгію дарогаю кантактаў з польскімі парлямэнтарыстамі. Яна лягчэй прайшла б у нас, дзе спачатку насельніцтва было гатова пагадзіцца з аўтаноміяй. Нарэшце, калі ён быў фэдэралістам, дык чаму ж не адышоў часова ў цень, а заняў адно з першых месцаў у радох Грамады з яе усходняю ар'ентацыяй? Дзе ключ ад разгадкі хістаньняў ад прэм'ерства БНР да ўгадовай Вайсковай Рады, ад Рады - да незалежніцкіх настрояў Беларускага Пасольскага Клюбу, адтуль - да новай польскай угоды? Няўжо разгадка ляжыць у нашай матар'яльнай беднасьці?

## ПОЛЬСКАЯ ДЭФЭНЗЫВА І ГРАМАДА

Амаль ад першых дзён Сойму некаторыя нашы паслы сталіся аб'ектам увагі польскай палітычнай разьведкі. Ейныя агенты часта прыходзілі ў наш Пасольскі Клюб з прапанавамі працы для беларусаў. Асаблівай дакучлівасьцю адзначаўся нейкі Кузьма. Ён прапанаваў адчыніць беларускую школу ўва Ўселюбскай воласьці. Яны ўціскаліся ў грамадоўскія гурткі, усё вынюхвалі, на зборках выступалі з вострымі клічамі супроць польскай дзяржаўнасьці, падрыхтоўваючы гэтым для адміністрацыі грунт пад будучы разгром Грамады. Такі Кузьма лётаў па гуртках Навагрудчыны. Камуністы мястэчка Ярэмічы нейкім спосабам разьведалі, хто такі Кузьма, запрасілі яго ў Ярэмічы ды жалезным шворнам на гары аднае хаты яго забілі. Ягоны труп укінулі ў Нёман, дзе яго выпадкова знайшла паліцыя. У выніку - два Царукі і Жалезьняковіч былі прысуджаны да бязтэрміновай турмы.

Разьведка пралезла нават у Пасольскі Клюб. Трэба меркаваць, што праз пасла Ваевудзкага й нейкага Сьвіневіча. Ваевудзкі - стары агэнт вайсковай разьведкі зьперад часу польска-савецкай вайны. Нейкім няведамым спосабам ён заслужыў давер Тарашкевіча і Луцкевіча. Як далёка былі запушчаны мацкі польскай разьведкі ў беларускае жыцьцё, відаць з наступнага факту. Аднойчы ў памешканьні Луцкевіча адбывалася канфэрэнцыя. Кс. А.Станкевіч, Аўсянік, Кахановіч і сэнатары былі адсутныя. Аб чым вяліся гутаркі, я сёньня ня памятаю. Дастаткова таго, што яны мелі сакрэтны характар. Пасьля я заўважыў, што ад некаторага часу кс. Адам не забірае слова на пасяджэньнях Клюбу. У кулюарах Сойму я і пытаю ў яго аб прычыне ягонага маўчаньня. Ён ўсхвалёвана адказаў:"Будзеш гаварыць праўду й нічога ня ўтоіш?" - "Буду"._ "Дык вось, аднаго разу ў памешканьні Луцкевіча гаварылася тое і тое. Праўда?" - "Праўда,"- адказваю.- "Дык як я буду гаварыць, калі ў Клюбе ёсьць дэфэнзыва?" Мяне гэта ашаламіла, і я папрасіў яго расказаць, як ён гэта даведаўся. Высьвятлілася, што кс. Адам меў сваю разьведку ў другім аддзеле Міністэрства Нутраных Справаў, нейкага прыяцеля беларусаў, які й папярэдзіў яго асьцерагацца нават у Клюбе, перадаючы пры гэтым зьмест нашых гутарак у памешканьні Луцкевіча. Прыпускаю, што Тарашкевіч або Луцкевіч прагаварыліся Ваевудзкаму або Сьвіневічу ды ад аднаго з іх стала вядома і для Міністэрства Нутраных Справаў.

## КАМУНІСТЫ І ГРАМАДА

Аднойчы ў Сойме Рак-Міхайлоўскі запытаў у мяне, ці я знаю Ханевіча, што паходзіць з мае вёскі, які застаўся ў Саветах. Я адказаў, што там засталося некалькі Ханевічаў. Нейкі Ханевіч прыехаў з Менску для нелегальнай працы і хоча бачыцца са мною. Рак-Міхайлоўскі даў мне адрас, дзе я мог спаткаць гэтага Ханевіча.

На глухой вуліцы Антокалю ў Вільні, у нейкім доме каля вайсковага шпіталю, мяне ўпусьцілі ў даволі вялікі пакой. Там сядзеў малады мужчына, якога я адразу пазнаў. Гэта быў Міхал Гурын, сваяк нашага настаўніка з Любчы. Пасьля заканчэньня Навагрудзкага гарадзкога вучылішча Гурын паступіў у Пскоўскую сярэднюю сельска-гаспадарчую школу, адкуль быў выкінуты за рэвалюцыйную дзейнасьць. Я быў страціў ягоны сьлед. І вось, пасьля некалькіх год я спаткаў яго ў Вільні. Пасьля гутарак аб мінулым і Бацькаўшчыне ён запрапанаваў мне працаваць разам з ім для справы камунізму. Я адмовіўся, матывуючы тым, што я прыхільнік дробнай уласнасьці і станоўка адкідаю камуністычныя кашары цела й духа. Я хутчэй згаджуся быць скрайным індывідуалістам, чым камуністам. Аднак яго запэўніў, што буду адносна яго карэктны і не прычыню яму ніякай няпрыемнасьці. Ён папрасіў не выяўляць ягонага сапраўднага прозьвішча. Цераз некаторы час, падчас майго пабыту ў Вільні, мяне й Ярэміча запрасілі ў памешканьне дырэктара Віленскай Гімназіі Р.Астроўскага. Прыйшоўшы туды, апрача паслоў, мы ўбачылі там Гурына і нейкага старэйшага спадара. Гаварылі аб беларускіх справах і патрэбах. З гутарак старога, зьвярнуўшы ўвагу на ягоную мову, я лёгка зразумеў, што перада мною паляк, які добра ўмее гаварыць парасейску. Гэтага было дастаткова, каб я набраў у рот вады. Толькі пасьля гутарак, улавіўшы зручны момант, я спытаў у Гурына, чаму ён прывалок сюды паляка? Ён прабаваў мяне пераканаць, што гэта стары сацыяліст, які працаваў калісьці разам з Пілсудзкім. Ярэміч сказаў выразна, што гэта польскі шпік. Нашая здагадка пасьля спраўдзілася.

Пасьля гэтай канфэрэнцыі фінансаваньне нашых школаў узяў на сябе Гурын. Клюб быў Грамадою адапхнёны ад гімназіяў і парастаў іх субсыдаваць. Ці вялікія былі ўспамогі Гурына, мне ня ведама, таму што ўсё ішло цяпер праз паслоў Грамады і Р.Астроўскага. Толькі адзін раз Рак-Міхайлоўскі перадаў праз мяне для Навагрудзкай Гімназіі 500 зл. Гурын пляняваў субсыдаваць нават беларускія нелегальныя пачатковыя школы. Супроць гэтага выступіў ЦК Польскай Камуністычнай Партыі, у які ўваходзіў і Гурын. Пачаліся спрэчкі ўнутры камітэту, у выніку якіх Масква за пасярэдніцтвам Менску адклікала Гурына. Ён пастанавіў ня ехаць, гаворачы: "Я ведаю, чым гэта пахне! Зачыняць, не дадуць курыць, накормяць салёнымі селядцамі ды не дадуць вады". Канфлікт закончыўся выхадам Гурына з ЦК ПКП. Ён тады яшчэ меў у сваім распараджэньні каля 10.000 даляраў. Паразумеўшыся з Грамадою і Астроўскім, ён вырашыў заснаваць сваю камуністычную партыю пад назвам "Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі" (КПЗБ). Ён зарганізаваў тайную друкарню, у якой друкаваў свой орган "Чырвоны Сьцяг". Польскім камуністам гэта прыпала не да смаку. Яны выкрылі яе і, уварваўшыся аднойчы ў друкарню, спалілі ўсе дзераўляныя часткі, разьбілі чыгунныя і зьнішчылі рэпту. Цераз некаторы час Гурын быў арыштаваны і кінуты ў беластоцкую вязьніцу. Там ён духова зламаўся і, відавочна, за нейкія ня зусім чыстыя абяцаньні быў выпушчаны на свабоду. Пасьля гэтага за пасярэдніцтвам Рак-Міхайлоўскага я два разы бачыўся з Гурынам, у Варшаве і ў Горадні. Наша гутарка была прыблізна такая:

- У які спосаб ты выйшаў з турмы?
- Мне дапамагла ППС.
- За якія абяцанькі з твайго боку?
- Яны хочуць, каб я сёньня выступіў на мітынгу. Што рабіць, выступаць ці не?
- Я ня раджу.
- А што рабіць?
- Адмоўся ад камунізму і перайдзі на бок Беларускага Пасольскага Клюбу. Працуй з намі. Мы цябе нелегальна перакінем у Нямеччыну. Там ты ўвойдзеш у кантакт з немцамі і станеш на чале нашага Інфармацыйнага Бюро. Сродкі пакуль што дасьць са сваіх запасаў Клюб, а пасьля пастараемся знайсьці іншую якую-небудзь крыніцу. Ты - зацкаваны воўк, і цябе ўсёроўна заб'юць камуністы і скінуць на дыфэнзыву або - дыфэнзыва, і зваліць на камуністаў.

Маю прапанову ён не прыняў. Як я прадбачыў, гэтак і сталася. У Горадні, пасьля гутаркі са мною ў гатэлі "Гандлёвы" ён выйшаў ад мяне каля 11 г. увечары. Я не пасьпеў распрануцца, калі пачуў стук у дзьверы і голас Гурына: "Адчыні". Ён ўвайшоў бледны і сказаў: "Я ранены. На вуліцы Пілсудзкага нейкі тып восем разоў выстраліў у мяне." Я паклаў яго на сваім ложку, агледзеў рану і выклікаў паліцыйнага лекара. Быў напісаны паліцыйны пратакол. Мяне дапыталі ў якасьці сьведкі, а Гурына забралі ў шпіталь. Судовы сьледчы стараўся ўмяшаць у гэтую справу паслоў Тарашкевіча і Валошына, якія былі ў гэты дзень у Горадні, накіроўваючы ў гэтым напрамку мае пытаньні. Я сказаў, што не дапушчаю думкі аб іх удзеле ў гэтай справе, хоць у душы я і меркаваў, што бяз іх ведама (прынамся, Валошына) гэта не абышлося.

Цераз некаторы час Рак-Міхайлоўскі і Валошын сказалі мне, што Гурын, напэўна, стаў здраднікам і служыць "przodownikiem" сьледчай паліцыі ў Вільні. Мяне гэта анічуць ня зьдзівіла.

(Працяг будзе ў N 29).

**АД РЭДАКЦЫІ:** Як абяцала рэдакцыя, на старонках нашае газэты працягваецца публікацыя сьпісаў ураджэнцаў Гарадзенскай губэрніі, якія былі расстраляныя па палітычных абвінавачаньнях у 30-я гады на тэрыторыі Расеі. Сёньня мы друкуем прозьвішчы й кароткія біяграфічныя зьвесткі аб нашых земляках, якія не па сваёй волі знайшлі сваё апошняе прыстанішча ў зямлі Яраслаўскай вобласьці.

Рэдакцыя выказвае ўдзячнасьць чалавеку, дзякуючы якому ў нас зьявіліся гэтыя матэрыялы. Мікола Ількевіч - наш зямляк з Горадні, шчыры й сьціплы беларус, жыве ў Смаленску й вельмі любіць сваю Бацькаўшчыну.

# «НІ ТРОХМЯТРОВЫ СЛОЙ ЗЯМЛІ, НІ ВАПНА СЬЛЕД НЕ ЗАМЯЛІ...»

Усе 25 чалавек, прозьвішчы якіх у беларускім друку ўзгадваюцца ўпершыню, зараз рэабілітаваныя згодна закону. На жаль, месцы іх захаваньня дагэтуль застаюцца невядомымі, за выключэньнем аднаго чалавека. Крымінальныя справы па абвінавачаньню гэтых людзей зараз знаходзяцца ў архівах Упраўленьня Фэдэральнай службы контрразьведкі па Яраслаўскай вобласьці.

**М.ІЛЬКЕВІЧ, г.Смаленск.**

**Апановіч Антон Кузьміч,** 28.08.1898г., в.Падрозь Гарадзенскай губ. Рабочы торфапрадпрыемства "Купань". Арыштаваны 1.10.1937г. Расстраляны 18.01.1938г. Рэабілітаваны 18.10.89г.

**Брыль Марыя Зусьеўна,** 09.1908г., г.Беласток. Загадчыца сэктарам Яраслаўскага абкама ЛКСМ. Арыштаваная 20.08.37г. Расстраляная 25.01.38г. Рэабілітаваная 2.06.1956г.

**Васілеўскі Ўладзімір Іванавіч,** 1903г., м.Азёры Гарадзенскай губ. Токар паравознага дэпо станцыі Веполье. Арыштаваны 21.08.1937г. Расстраляны 27.11.1937г. Рэабілітаваны 8.05.1958г.

**Кісьлейка Георгі Іванавіч.** 22.11.1887г. в.Старынцы Гарадзенскага павету. Рабочы на станцыі Яраслаўскай Паўночнай чыгуначнай дарогі. Арыштаваны 16.11.1937г. Расстраляны 19.01.1938г. Рэабілітаваны 20.05.1958г.

**Кіячка Сямён Пятровіч,** 10.06.1870г. в.Буртаўшчына Гарадзенскай губ. Пераездны вартаўнік станцыі Любім Паўночнай чыгуначнай дарогі. Арыштаваны 8.02.1938г. Расстраляны 31.10.1938г. Рэабілітаваны 15.12.1960г.

**Канецкі Аляксандр Міхайлавіч,** 1901г., в.Шэляпкі Гарадзенскай губ. Інжэнер праэктнага аддзелу Волгалага НКВД. Арыштаваны 9.11.1937г. Расстраляны 25.01.1938г. Рэабілітаваны 17.10.1989г.

**Мацкевіч Аляксандр Ігнатавіч,** 12.03.1891г. в.Пескі Пружанскага павету Гарадзенскай губ. Старшыня Тутаеўскага спартыўна-паляўнічага таварыства. Арыштаваны 28.01.1938г. Расстраляны 31.10.1938г. Рэабілітаваны 24.01.1957г.

**Міpховіч Сяргей Андрэевіч,** 24.09.1877г. в.Гутава Кобрынскага павету Гарадзенскай губ. Сьвятар. Арыштаваны 11.10.1937г. Расстраляны 31.12.1937г. Рэабілітаваны 22.05.1989г.

**Навумовіч Сьцяпан Андрэевіч.** 25.02.1905г., в.Друшчыкавічы Гарадзенскай губ. Інжэнер Волгастроя НКВД. Арыштаваны 10.12.1937г. Расстраляны 3.03.1938г. Рэабілітаваны 10.05.1962г.

**Пяткевіч Юльян Іванавіч,** 1.02.1883г., г.Смаргонь. Майстар завода імя Паўлава. Арыштаваны 16.09.1937г. Расстраляны 6.11.1937г. Рэабілітаваны 1.06.1957г.

**Плікус Іван Сямёнавіч,** 10.05.1902г. г.Беласток. Вайсковец. Арыштаваны 12.09.1937г. Расстраляны 19.01.1938г. Рэабілітаваны 6.09.1957г.

**Пракопаў (Пракаповіч) Іосіф Антонавіч,** 8.11.1896г., в.Любарты Лідзкага павету Брыгадзір пуці 11-й дыстанцыі Паўночнай чыгуначнай дарогі. Арыштаваны 9.09.1937г. Расстраляны 21.11.1937г. Рэабілітаваны 19.10.1989г.

**Радзішэўскі Вікенцій Антонавіч,** 23.10.1889г., в.Кракаўка Гарадзенскай губ. Рабочы аўтазавода. Арыштаваны 20.06.1937г. Расстраляны 4.11.1937г. Рэабілітаваны 28.10.1957г.

**Севец Мацей Лявоньцьевіч,** 5.07.1893г. Новае Сяло Гарадзенскай губ. Майстар швэйнай майстэрні ДТК пры Рыбінскім гарсавеце. Арыштаваны 21.08.1937г. Расстраляны 13.01.1938г. Рэабілітаваны 30.12.1957г.

**Суровец Аляксандр Іванавіч,** 6.12.1904г. в.Гаркавічы Гарадзенскай губ. Старэйшы бухгалтар лясной канторы Яраблснабзбыт. Арыштаваны 31.08.1937г. Расстраляны 19.01.1938г. Рэабілітаваны 28.10.1957г.

**Шчасьнюк Юльян Пятровіч,** 18.07.1903г. в.Дзярэчынцы Навагрaдзкага павету. Калгасьнік к-су "Краіна Саветаў". Арыштаваны 21.08.1937г. Расстраляны 4.11.1937г. Рэабілітаваны 17.03.1958г.

**Тодрык Пётра Іванавіч,** 14.01.1870г. в.Навасёлкі Аўгустоўскага павету. Бухгалтар ЖЭКа N1 г.Тутаева. Арыштаваны 28.01.1938г. Расстраляны 28.06.1938г. Рэабілітаваны 10.10.1957г.

**Тхорык Сьцяпан Сяльвестравіч,** 1900г. Кобрынскі павет Гарадзенскай губ. Упраўляючы канторай "Галоўмалако" Арыштаваны 28.01.1938г. Расстраляны 28.06.38г. Рэабілітаваны 10.10.1957г.

**Халіманюк Мікалай Сямёнавіч,** 28.07.1875г. в.Чалеява Гарадзенскай губ. Конюх на Рыбінскім заводзе N 26. Арыштаваны 9.02.1938г. Расстраляны 31.10.1938г. Рэабілітаваны 27.02.1958г.

**Хлябіч Аляксандр Пятровіч,** 1899г., в.Нятуна Гарадзенскай губ. Часова выконваючы абавязкі начальніка аддзела Яраслаўскага паштамту. Арыштаваны 29.05.1938г. Расстраляны 5.10.1938г. Пахаваны ў в.Селіфонтава Яраслаўскага раёну. Рэабілітаваны 3.11.1956г.

**Швальбэ Альфрэд Фрыдрыхавіч,** 1.11.1886г. г.Беласток, начальнік сэктару Яраслаўскага гумава-азбэставага камбінату. Арыштаваны 12.02.1937г. Расстраляны 15.07.1937г. Рэабілітаваны 22.08.1957г.

**Яблонскі Антон Францавіч,** 23.01.1890г. Гарадзенскай губ. Бухгалтар Яраслаўскага шыннагазавода. Арыштаваны 24.08.1937г. Расстраляны 4.11.1937г. Рэабілітаваны 28.10.1957г.

**Ягоўдзік Васіль Ігнатавіч,** в.Бабынічы Гарадзенскай губ. Рабочы Пераслаўскай фабрыкі N5. Арыштаваны 21.08.1937г. Расстраляны 6.11.1937г. Рэабілітаваны 8.07.68г.

**Ягоўдзік Максім Паўлавіч,** 1888г., в.Ламашы Гарадзенскай губ. Старэйшы пуцявы абходчык 2-й дыстанцыі пуці Паўночнай чыгуначнай дарогі. Арыштаваны 20.11.1937г. Расстраляны 30.12.1937г. Рэабілітаваны 10.07.1989г.

**Бобрык Андрэй Іванавіч** , 11.08.1888г. в.Цімкавічы Ашмянскага павету, бухгалтар воднатранспартнай арцелі "Волна". Арыштаваны 27.09.1937г. Расстраляны 20.01.1938г. Рэабілітаваны 30.09.1957г.

9 верасьня 1994 года ў 11.00

**АЎКЦЫЁН**

прапануе аб'екты камунальнай маёмасьці Горадні

**7 крамаў**

*Агульная плошча кожнай -*
348; 464; 482; 496; 653; 665 і 737 кв.м.
*Пачаткова цана -*
140; 39; 13,3; 276,5; 116; 2,3 і 13 млн.руб.

**2 кватэры**

*Агульная плошча кожнай -*
70,32 і 75,36 кв.м.
*Пачатковая цана -*
157,6 і 168,8 млн.руб.

**5 будынкаў**

*Агульная плошча кожнага -*
104; 349; 398; 671 і 1180 кв.м.
*Пачатковая цана -*
35; 51; 93; 147 і 347 млн.руб.

А таксама права на арэнду 4-х памяшканьняў тэрмінам на 5 гадоў.
Поўную інфармацыю можна атрымаць па адрасу: 230023 г.Горадня, пл.Леніна, 2/1, пакоі NN 57,58
Тэл.: (0152) 45-29-81, 47-29-56

**СПАРЫШ**

па цэнах, ніжэй за рыначныя, мае на продаж
— бухгалтарскія калькулятары **CITIZEN**;
—тэлефоны, факсы **PANASONIC**;
— відэа- і аўдыёкасеты **TDK**;
—касавыя апараты **SAMSUNG**.
*АПЛАТА ЗА БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЬЛІК.*
*ТЭЛЕФОН У ГОРАДНІ 31-78-94.*

## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 22.08

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 Фільм для дзяцей. 09 35 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 05 "Дынастыя". Серыял вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Прыемнае з карысным. 12 20 Англійская мова. 12 30 Праграма каталіцкай рэдакцыі. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 30 Цэнтральная Еўропа. 14 45 Каталог помнікаў. 15 00 "Форд - чалавек і аўтамабіль". Фільм вытв. ЗША. 16 35 Летняе MTV. 17 00 Праграма для падлеткаў. 17 30 Рэпартаж. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 Квант. 19 05 Фільм для дзяцей. 19 35 Рок-рапарт. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Фестываль польскай тэлетворчасці. 22 50 Мініацюры. 22 55 Адразу з Бельведэра. 23 05 Пульс дня. 23 25 Лексікон польскай забаўляльнай музыкі. 23 40 Дакументальны фільм. 00 00 Навіны. 00 10 Тэатр ці тэлебачанне. 00 40 "Юніор Бонер". Фільм вытв. ЗША. 02 20 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 Мультфільм. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Тэлежурнал. 09 40 Песні сонечнай вуліцы. 10 00 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 30 Спыненне другой праграмы. 11 00 Дакументальны фільм. 12 00 Фільмы вытв. ЗША. 13 00 Музычная праграма. 14 00 Панарама. 15 30 Праграма аб жывёлах. 15 55 Праграма дня. 16 05 Дакументальны фільм. 16 35 Мультфільм. 17 00 "Адлёт". Серыял вытв. Польшчы. 18 00 Обзор кінахронік. 18 30 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 19 35 Тэлетурнір. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 35 Тэлетурнір. 20 05 Лясы свету. 21 00 "Здраўка". Серыял вытв. ЗША. 21 30 Аўтажурнал. 22 00 Панарама. 22 30 Спіскі памяці. 22 40 Спартыўная студыя. 22 50 Рэпарцёры другой праграмы прадстаўляюць. 23 10 "Гэта здараецца з іншымі". Фільм вытв. Францыі. 00 35 Марафон цвярозасці. 01 05 Панарама. 01 10 Канцэрт. 01 40 Ноч і стрэс. 01 55 "Здраўка". Серыял вытв. ЗША.

### АЎТОРАК, 23.08

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 Мультфільм. 09 30 Кава ці гарабата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Жыццё". Серыял вытв. Японіі. 11 45 Еўрапейскі партрэт. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Рынак працы. 12 20 Англійская мова. 12 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Зонд. 13 45 Зорнае вандраванне. 14 00 Каменне з той і не с той зямлі. 14 10 Кухня. 14 30 Наша Балтыка. 14 45 Канікулы. 14 55 Праграма дня. 15 00 "Кася і духі". Фільм вытв. Чэхіі. 16 25 Аўтаманія. 17 00 Праграма для дзяцей. 17 25 Тэлетурнір. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 Музычны тэлетурнір. 19 05 Мультфільм. 19 30 Энцыклапедыя другой сусветнай вайны. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Тата". Фільм вытв. ЗША. 22 45 Сеймограф. 22 55 Толькі ў першай праграме. 23 30 Краіна Амерыка. 00 00 Навіны. 00 10 Дакументальны фільм. 01 00 Студыя "Гама". 01 45 Праграма французскага тэлебачання.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Спартыўная студыя. 10 00 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 30 Канікулы ў другой праграме. 11 00 Спартыўная праграма. 12 00 "Забароненая любоў". Серыял вытв. Венесуэлы. 12 45 Культурна-публіцыстычная праграма. 13 00 Музычнае лета ў другой праграме. 13 50 Тэлежурнал. 14 00 Панарама. 14 15 Спартыўная студыя. 14 30 Успаміны. 15 30 Спартыўная праграма. 15 55 Праграма дня. 16 00 Зброя XX стагоддзя. 16 30 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 16 55 Спартыўная студыя. 17 05 "Адлёт". Серыял вытв. Польшчы. 18 00 Тэлежурнал. 18 10 Каталіцкая праграма. 18 30 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 20 05 Спартыўная праграма. 21 00 Пытанні аб Польшчы. 22 00 Панарама. 22 30 Спартыўная праграма. 22 40 Экалагічная праграма. 23 00 "Грэк Зорба". Балет. 01 00 Панарама. 01 05 Фестываль польскай тэлетворчасці. 02 05 Канцэрт.

### СЕРАДА, 24.08

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 "Балада аб дрэве". Камедыя вытв. Польшчы. 09 35 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Клуб адзінокіх сэрцаў. 12 20 Каталог помнікаў. 12 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 10 На верхавінах Татр. 13 15 Крыж над верхавінамі. 13 25 Шмат гадоў таму назад. 13 35 Дакументальны фільм. 14 00 Магілкі ў гарах. 14 10 Магія Татр. 14 20 Дакументальны фільм. 14 45 Сустрэча з паэтам і мастаком. 14 55 Праграма дня. 15 00 Мастацкі фільм. 16 50 Летняе MTV. 17 00 Праграма для моладзі. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 Здароўе. 19 05 "Сонечный патруль". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Спартыўная праграма. 22 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 23 00 Пульс дня. 23 30 Блізкія сустрэчы. 00 00 Навіны. 01 55 "Добрай ночы, мама". Фільм вытв. ЗША. 01 40 Вроцлаў-94.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 Мультсерыял. 09 05 Меясцовая праграма. 09 35 Тэлежурнал. 10 00 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 30 Спыненне другой праграмы. 11 00 Дакументальны фільм. 12 00 "Сем жаданняў". Серыял вытв. Польшчы. 13 00 Музычнае лета ў другой праграме. 14 00 Панарама. 14 15 Цыркі свету. 15 30 Спартыўная праграма. 16 00 Праграма дня. 16 05 Рэпартаж. 16 35 Праграма для дзяцей. 17 00 "Адлёт". Серыял вытв. Польшчы. 17 55 Розыгрыш лато. 18 00 У цяні Крамля. 18 30 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 35 Тэлетурнір. 20 05 Дакументальны фільм. 21 05 "Справы Росі О'Нэйл". Серыял вытв. ЗША. 21 50 Цені жыцця. 22 00 Панарама. 22 30 Экспрэс рэпарцёраў. 23 05 "Радыёраманс". Серыял вытв. Польшчы. 23 40 Фестываль польскай тэлетворчасці. 00 40 З-за куліс Сопата. 01 00 Панарама. 01 05 Тэлетэатр у кадры.

### ЧАЦВЕР, 25.08

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гшарбата? 09 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 05 Мастацкі фільм. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Пашый сама. 12 20 Каталог помнікаў. 12 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Заапаркі. 13 40 Стрэл у дзесятку. 14 55 Праграма дня. 15 00 "Мой брат - злачынца ". Фільм вытв. ЗША. 16 25 Забаўляльная праграма. 17 00 Праграма для моладзі. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 Каталіцкая праграма. 19 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 19 30 Забаўляльная праграма. 20 00 З'еш гэта сам. 20 15 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Блакітны жэмчуг". Фільм вытв. Аўстраліі. 22 45 Урадавы журнал. 22 55 Толькі ў першай праграме. 23 30 Забаўляльная праграма. 23 45 Паліцэйскі журнал. 00 00 Гаспадарчыя навіны. 00 15 Дакументальны фільм. 01 05 "Аркестр "Клуб Вірджынія". Фільм вытв. Іспаніі. 02 25 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Спартыўная студыя. 10 00 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 30 Канікулы ў другой праграме. 11 00 Дзівосны свет жывёл. 11 30 Дзірка ў кошыку. 12 00 "Браканьер". Фільм вытв. Польшчы. 13 00 Спартыўная студыя. 13 10 Музычнае лета ў другой праграме. 13 40 Спартыўная студыя. 14 00 Панарама. 14 15 Спартыўная студыя. 15 10 Канцэрт. 15 30 Лётны журнал. 15 55 Спартыўная студыя. 16 00 Праграма на вечар. 16 05 Рэпартаж. 16 35 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 17 00 "Адлёт". Серыял вытв. Польшчы. 18 00 Спартыўная праграма. 18 30 "Любоў і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 35 Кола фартуны. 20 05 Сведкі XX стагоддзя. 21 00 Кінавечар. 21 05 Кінасеанс. 22 00 Панарама. 22 30 Спіскі памяці. 22 35 Спартыўная праграма. 22 45 Гістарычная праграма. 23 05 "Паштальён звоніць два разы". Фільм вытв. ЗША. 01 05 Панарама. 01 10 Люблю кіно.

### ПЯТНІЦА, 26.08

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 "Нос". Фільм вытв. Польшчы. 09 35 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 05 "Маладыя вершнікі". Фільм вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 20 Каталог помнікаў. 12 30 Сельскагаспадарчая журнал. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 14 55 Праграма дня. 15 00 "Над ракой, якой няма". Фільм вытв. Польшчы. 16 25 Рэпартаж. 17 00 Праграма для дзяцей. 17 25 Цырк. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Культурна-публіцыстычная журнал. 18 40 Тэлежурнал. 19 00 Спатканне "ў цёмную". 19 45 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Новости. 21 10 "Выхадны ў Пальм Спрынгс". Камедыя вытв. ЗША. 22 50 Пульс дня. 23 05 Забаўляльная праграма. 23 20 Фестываль польскай тэлетворчасці. 00 00 Навіны. 00 10 Дакументальны фільм. 01 10 "Чаму б і не". Фільм вытв. ЗША.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 Мультсерыял. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Спартыўная праграма. 10 00 Твар Аўстрыі. 10 30 Спыненне другой праграмы. 11 00 Праграма для дзяцей. 12 00 "Дакажы, што ты мужчына". Фільм вытв. ЗША. 13 00 Музычнае лета. 14 00 Панарама. 14 15 Канцэрт. 15 10 Лета майго жыцця. 15 25 Мультхоббі. 15 45 Айчына. 16 00 Прывітанне. 16 05 Зброя XX стагоддзя. 16 35 Мультфільм. 17 00 "Паляцець адсюль". Серыял вытв. ЗША. 18 00 Музычныя праграма. 18 30 Адзін з дзесяці. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 21 00 Сопат-94. 22 00 Панарама. 23 00 Сопат-94. 01 30 Панарама. 01 35 Тэлежурнал. 02 00 "Паляцець адсюль". Фільм вытв. ЗША.

### СУБОТА, 27.08

**ПРАГРАМА 1**

07 55 Агралінія. 08 35 З Польшчы. 08 45 Усё аб агародзе. 09 10 "Падабраная пара." серыял вытв. Польшчы. 10 00 Навіны. 10 10 Фестываль польскай тэлетворчасці. 12 00 Падводная адысея капітана Кусто. 13 00 Навіны. 13 10 Выстаўка сельскагаспадарчых жывёл. 13 30 Балтыка. 14 00 Музычная праграма. 14 30 Каталіцкая праграма. 15 00 Мультфільмы Дыснея. 16 10 Тэлетэатр. "Вампір у кухні". 17 35 Сенсацыі XX стагоддзя. 18 00 Тлеэкспрэс. 18 20 Музычная праграма. 19 10 "Падабраная пара". Серыял вытв. Польшчы. 20 00 Дзіцячы тэлежурнал. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Чалавек - загадка". Фільм вытв. Англіі. 22 50 Фестываль польскай тэлетворчасці. 00 10 Навіны. 00 20 Спартыўная субота. 01 10 "Вялікія грошы". Фільм вытв. ЗША. 02 35 Забаўляльная праграма. 03 35 "Халоа". Фільм вытв. Югаславіі.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Рэпартаж. 09 00 Праграма для дзяцей. 10 00 Такія адзінокія. 10 20 Урок мовы глуханямых. 10 25 Прывітанне. 10 35 Згуртаванне ў культуры. 11 05 Студыя другой праграмы. 11 10 Рэпартаж. 11 40 Дзірка ў кошыку. 12 00 Музыка аб'ядноўвае моладзь. 12 50 Фестываль польскай тэлетворчасці. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 14 40 Тэлежурнал. 15 10 Прадстаўленні 80-х гадоў. 15 30 Спартыўная праграма. 16 20 Студыя другой праграмы. 16 25 Жывёля свету. 16 55 Розыгрыш лато. 17 00 Тэлетурнір. 17 50 Праграма на вечар. 18 05 Мастацкі фільм. 18 30 З-за куліс Сопата. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 30 Тэлетурнір. 20 00 Школа ілгуноў. 20 30 Фестывальны Амстэрдам. 21 00 Сопат-94. 23 00 Панарама. 23 5 Сопат. 01 00 Панарама. 01 05 Забаўляльная праграма.

### НЯДЗЕЛЯ, 28.08

**ПРАГРАМА 1**

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Прашу адказаць. 08 35 Тыдзень. 09 30 Сельскагаспадарчая праграма. 09 55 Праграма дня. 10 00 Серыял вытв. Канады. 11 30 Школа выжывання. 12 10 Здароўе. 12 50 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 20 З камерай сярод звяроў. 13 40 Музычныя тэлеканікулы. 14 15 Музычная пошта. 14 35 Выстаўка сельскагаспадарчых жывёл. 15 00 У старым кіно. 16 40 Сто пытанняў. 17 10 Балтыка. 17 40 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 "Дынастыя Колбі". Серыял вытв. ЗША. 19 20 Праграма кабарэ. 19 30 Можна пасмяяцца. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Вяртанне ў Кентукі". Серыял вытв. ЗША. 22 05 Спартыўная нядзеля. 22 30 7 дзён - свет. 23 05 Тэлежурнал. 00 05 Фестываль польскай тэлетворчасці. 02 20 Спявае Ева Бем.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Рэха тыдня. 09 00 Мультсерыял. 09 25 Слова на ўваскрашэнне. 09 30 Фільм для глухіх. 10 15 Прывітанне. 10 30 Мясцовая праграма. 11 30 Спартыўная студыя. 11 35 Фестываль польскай тэлетворчасці. 12 00 Серыял для дзяцей. 12 50 "Канкан". Камедыя вытв. ЗША. 15 00 Праграма пра жывёл. 15 25 Студыя другой праграмы. 15 30 З-за куліс Сопата. 17 00 Сатырычная праграма. 17 15 Спартыўная студыя. 17 50 Серыял вытв. ЗША. 18 15 Прывітанне. 18 20 Падзеі тыдня. 18 50 Тэлежурнал. 19 25 Тэлетурнір. 20 00 Фестываль польскай тэлетворчасці. 23 10 "Бязвінна арыштаваная". Серыял вытв. ЗША. 00 05 Тэлежурнал. 01 00 Панарама. 01 05 Зоркі сусветнага джаза.

